С карэнь падымемо Айчыну нашу мілую і будзем з ёю мы, а з намі будзе Бог!
Ларыса Генію́ш

# ЗМАГАР

ВЫДАНЬНЕ СЛОНІМСКАЙ РАДЫ БНФ

КРАСАВІК — ТРАВЕНЬ 1998г. №1 Кошт свабодны




# Яны змагаліся за свабоду і незалежнасьць Беларусі

Барацьба за свабоду і незалежнасьць Беларусі на Слонімшчыне мае доўгую і славутую гісторыю. Не паглыбляючыся ў ход падзей, нельга не ўспомніць у гэтай сувязі Цітуса Пуслоўскага і Антона Бронскага (камандавалі паўстанцамі на Слонімшчыне ў 1831 г.), Міхала Валовіча (паўстанец 1831 і 1833 гадоў), Ізідара Лукашэвіча і Францішка Юндзіла (паўстанцы 1863 г.) і многіх іншых слонімцаў, імёны якіх упісаны ў гісторыю нашай Бацькаўшчыны.

Між іншым, у 1862 годзе дакументы згадваюць існаваньне ў Слоніме падпольнай арганізацыі, якая гуртавалася вакол павятовай бібліятэкі. Называюцца прозвішчы дзесяткаў яе ўдзельнікаў. Сярод іх — Я. Валовіча, Э. Корсака, І. Герубовіча, К. Гнаінскага, К. Пілецкага, В. Валовіча, Ю. Пратасевіча, Е. Пратасевіча, В. Міўгера, І. Лукашэвіча, У. Палубінскага, Я. Гарбоўскага, Ф. Мікульскага, П. Орды, Э. Рагозы, Л. Чэчата і іншых. Мэтай падпольля была барацьба супроць гвалту акупацыйнага рэжыму, якая ў 1863 годзе вылілася ва ўзброенае паўстаньне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Атрадамі слонімскіх паўстанцаў камандавалі Ізідар Лукашэвіч і Франьцішак Юндзіл.

У 1917 — 1918 гадах у барацьбу за незалежнасьць Беларусі ўключыліся такія вядомыя ўраджэнцы тагачаснай Слонімшчыны, як Ігнат Дварчанін і Максім Бурсевіч. Рызыкоўным і самаахвярным быў жыцьцёвы шлях усіх змагароў за свабоду Бацькаўшчыны. Сібірская катарга, карныя расправы маскоўскіх катаў на шыбеніцах і расстрэлы былі іх доляй...

Але барацьба працягвалася, народ не мірыўся зь няволяй. На зьмену загінуўшым героям прыходзілі іх нашчадкі, якія не маглі абыякава адносіцца да глуму і зьнявагі сваіх нацыянальных пачуцьцяў і сьвятыняў, што чынілі так званыя "вызваліцелі", а на

*(працяг на 2-й старонцы)*

## Дай руку, брат

Дай руку, брат!
У барацьбе за волю
Мы Беларусь адродзім, адстаім,
Народу вернем згубленую долю,
Устаць паклічам прыкладам сваім.
Дай руку, брат!
Цяпер, пакуль ня позна,
Пакуль яшчэ ў народзе вера ёсьць
А ў сэрцах прага да жыцьця
Так грозна
Распальвае да акупантаў злосьць.
Дай руку, брат!
Нас кліча край закуты
Адзінства ж —
Зброя нашых перамог
Мы!
Толькі мы
Парваць здалеем путы.
У справе гэтай
Нам паможа Бог!

**Васіль СУПРУН**

# ХРОНІКА

## Забаранілі

Слонімскі гарвыканкам не дазволіў правядзеньне ў РДК сьвяточнай вечарыны, з нагоды 80-ых угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці БНР. Мясцовыя вертыкальшчыкі-лукашысты памыляюцца, калі лічаць, што гвалтам можна выкрасьліць гістарычную памяць.

Беларусь жыла і будзе жыць!

## Грамадзянства БНР

зможа атрымаць кожны патрыёт Бацькаўшчыны, які верыць у ідэалы вольнай і незалежнай Беларусі.

Звяртайцеся ў Слонімскі БНФ!

# Яны змагаліся за свабоду і незалежнасьць Беларусі

*(працяг з 1-й старонкі)*

самай справе — акупанты. Бароняны гонар і годнасьць народа і Бацькаўшчыны, яны кідалі свае лёсы на алтар бескампраміснага змаганьня і ішлі шляхамі патрыётаў у праклятую Сібір ці ў бязыменныя магілы Курапатаў.

Адной з такіх пасьляваенных беларускіх патрыятычных падпольных арганізацыяў супраціўленьня сталінска-бальшавіцкаму таталітарнаму рэжыму была на Слонімшчыне "Чайка". Гэтая маладзёжная арганізацыя была створана вясною 1946 года ініцыятыўнай групай у складзе: настаўніка Глоўсе-віцкай школы Васіля Супруна, студэнта Брэсцкага чыгуначнага тэхнікума Міхася Ракевіча, студэнта Жыровіцкага сельскагаспадарчага тэхнікума Міхася Чыгрына і выпускніка слонімскай сярэдняй школы № 1 Аляксандра Гардзейкі.

Назва "Чайка" была дадзена падпольлю з мэтай канспірацыі палітычнага руху, які меў сацыял-дэмакратычны накірунак і з самага пачатку ставіў перад сабой мэту — абуджэньня і гуртаваньня вакол сябе найбольш персьпектыўнай і сьвядомай часткі беларускай інтэлігенцыі і моладзі з тым, каб арганізоўваць супраціўленьне акупантам. Падпольле хутка пашыралася. Ужо праз нейкі месяц яе ініцыятыўнай групай былі створаны адпаведныя закансьпіраваныя суполкі патрыётаў у Брэсцкім чыгуначным тэхнікуме, дзе вучыўся М. Ракевіч, Жыровіцкім сельскагаспадарчым тэхнікуме, дзе вучыўся М. Чыгрын і ў Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце, студэнтам якога быў Уладзімір Салавей. Акрамя гэтага патрыятычная маладзёжная суполка была створана ў вёсцы Глоўсевічы.

Кіраўніком падпольля пры заснаваньні "Чайкі" быў абраны Васіль Супрун. Пры аб'яднаньні ўсіх згаданых груповак, на выязным таемным паседжаньні ў Баранавічах, якія ў той час былі абласным цэнтрам, быў утвораны падпольны Цэнтр беларускага вызваленчага руху (ЦБВР). Кіраўніком яго стаў Васіль Супрун, а яго намесьнікамі — Аляксандр Барэйка (ад баранавіцкага падпольля) і Міхась Ракевіч (ад берасьцейскага падпольля). У кіраў-ніцтва Цэнтрам (як дарадцы) былі ўключаны яшчэ некалькі чалавек. Затым падпольны рух распаўсюдзіўся на Маладзечанскую і Пінскую вобласьці. У Слонімскім раёне існавала і яшчэ адна група — настаўніцкая. Усе гэтыя падпольныя структуры на тэрыторыях былых Баранавіцкай , Брэсцкай, Маладзечанскай і Пінскай абласьцей кіраваліся Цэнтрам беларускага вызваленчага руху, які фактычна знахо-дзіўся на Слонімшчыне.

Улетку 1947 года маладзёжнае падпольле было разгромлена савецкімі карнымі ворганамі. Патрыётаў судзілі ваенныя трыбуналы ў Баранавічах і Менску.

**Паўлюк ДУБІНА**

Ты хочаш жыць у вольнай і незалежнай Беларусі? Уступай у шэрагі Беларускага Народнага Фронту і змагайся за свабоду сваёй Бацькаўшчыны!

# Скажам дыктатуры НЕ!

Шмат разоў даводзілася чуць ад розных людзей, як яны абураюцца ўсім, што адбываецца на Беларусі: штодзённым ростам цэнаў, нізкім заробкам, хлусьнёй уладаў, парушэньнем правоў чалавека. Але гэта выказваньні паасобку. Калі праводзяцца масавыя акцыі, мітынгі, пікеты і іншае, па розных прычынах удзельнічае ў іх ня шмат людзей. Спытаеш ў таго, хто абураецца ўсім: «Чаму не пратэстуеш?». У яго заўсёды знаходзіцца шмат прычын, якія не даюць магчымасьці ўдзелу ў акцыях.

Хартыя-97, якраз дае падобную магчымасьць. Шмат хто з слонімцаў раней знайшоў у сябе ў паштовай скрыні лісточак з Хартыяй-97. Там могуць паставіць подпісы да дзесяці чалавек. Дайце падпісацца сваім знаёмым, блізкім, сябрам! Зрабіце крок насустрач свабодзе! Подпісы дашліце ў незалежныя газэты: «Пагоня», «Навіны», «Народная Воля».

Гэтым вы скажаце НЕ дыктатуры.

**Сямён РОШЧЫН**

&

**Васіль СУПРУН**

## Гэта страшна

Гэта страшна,
калі твой зьнявечаны край
Прайдзісьветаў у госьці
зьбірае.
Але страшна ня меньш,
калі пнучыся ў «рай»
Патрыётаў зноў смутай карае.
І ў чым грэх іх —
ахвярных Радзімы сыноў?
За што сёньня ад Маці
няласка?
Мо таму, што ўсё
ў нас перададзена зноў
Старым катам
пад новаю маскай?
Ці не час схамянуцца,
нарэшце, сыны?
І спытаць у прыблудаў
сурова —
За ўсе зьдзекі з народу,
што несьлі яны,
За расстрэлы мільёнаў і мовы?
Вельмі страшна,
калі твой зьняважаны край
Пад нагамі ў катаў канае
Але страшна ня меньш,
калі пнучыся ў «рай»,
Ён на горла сабе ж наступае.

&

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

## Не змаўчаў

Цяплівы і трывушчы мой народ,
Такога зьдзеку і такога болю,
Такіх пакутаў і такіх нягод
Ніхто б ня вытрымаў ніколі.
А ты зацяўся і маўчыш,
Не пратэстуеш, толькі плачаш,
Спрадвеку злыдням плаціш чынш,
А сам гаруеш і жабрачыш.
Бо памяць з мовай аднялі,
Каб не стагнаў, каб не азваўся,
Ні пад зямлёй, ні на зямлі
Народам і не называўся.
Уласнае гадоўлі зброд,
Што нас упарта гнаў да «раю»,
Цярплівы, змучаны народ
Як абдзіраў, так абдзірае.
Над намі смог навіс густы.
Калі ж, трывушчы мой народзе
Народам гордым станеш ты
І скажаш: «Здзекавацца годзе!».

**Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" — шырокі грамадзка-палітычны рух за пераўтварэньне грамадзтва і за адраджэньне беларускай нацыі на прынцыпах дэмакратыі і гуманізму, разьвіцьця культуры карэннай нацыянальнасьці і ўсіх нацыянальных супольнасьцяў, за рэальную дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Метады палітычнай дзейнасьці БНФ — удзел у выбарах, масавыя палітычныя акцыі, вывучэньне і аналіз становішча ў розных сферах жыцьця Беларусі, распрацоўка праграм, канцэпцый, законапраектаў, культурна-асьветніцкая дзейнасьць.**

**Галоўная мэта Беларускага Народнага Фронту — свабодны чалавек у адроджанай незалежнай Беларусі.**

# Мы — з БНФ!

## Кароткая гісторыя Слонімскай арганізацыі Беларускага Народнага Фронту



Фота 1994 [illegible] у Слоніме

Арганізацыйны камітэт БНФ быў утвораны 19.10.1988 г. па прапанове Зянона Пазьняка на ўстаноўчым сходзе Беларускага гісторыка-асьветнага таварыства памяці ахвяраў сталінізму "Мартыралог Беларусі". З кастрычніка 1988-га пачалі ствараацца групы падтрымкі БНФ "Адраджэньне" на прадпрыемствах, ва ўстановах, па месцы жыхарства. 19 лютага 1989 года на стадыёне "Дынама" ў Менску адбыўся першы ў БССР дазволены ўладамі апазіцыйны палітычны мітынг, арганізаваны БНФ.

Устаноўчы з'езд БНФ адбыўся 24-25 чэрвеня 1989 г. у Вільні. На правядзеньне яго ў Менску Прэзыдыум Вярхоўнага Савета БССР ня даў згоды. У працы з'езда бралі ўдзел 399 дэлегатаў. Ад Слоніма дэлегатам на з'ездзе быў рабочы камвольнай фабрыкі Рудольф Пастухоў. З'езд прыняў статут і праграму руху.

У канцы жніўня 1989 г. у клубе інтэрната Слонімскай камвольнай фабрыкі адбыўся сход прыхільнікаў БНФ г. Слоніма. На сходзе была створана гарадская Рада Беларускага Народнага Фронту ў складзе Рудольфа Пастухова, Ігара Падгарадзецкага і Мікалая Ракевіча. З гэтага часу пачынаецца дзейнасьць Слонімскай гарадской аргані-зацыі БНФ.

У верасьні 1989 года ў гарадскім турысцкім клубе (гарадзкі парк) адбылася першая сустрэча кіраўніцтва гарадской Рады БНФ з грамадзкасьцю горада.Першы палітычны мітынг у Слоніме правяла гарадзкая арганізацыя Фронту у канцы кастрычніка 1989 г. на агітпляцоўцы па вуліцы Брэсцкай. Гэта быў адкрыты пратэст супраць антыдэмакратычных праектаў законаў аб выбарах народных дэпутатаў БССР і мясцовых Саветаў, якія Вярхоўны Савет БССР разглядаў і прымаў у кастрычніку 1989 г.

Выбарчая кампанія БНФ ішла пад лозунгам "Галасуй за Беларусь!", "Беларусь, вяртайся ў Еўропу!" У выбарчай платформе БНФ "Галасую за Беларусь!", прынятай 9 сьнежня 1989 г., заяўлялася, што БНФ "ідзе да выбараў з ідэямі палітычнага і эканамічнага плюралізму, культурнага адраджэньня, з ідэямі дэмакратыі, свабоды і суверэні-тэту Беларусі". БНФ у 1990 годзе ня быў зарэгістраваны і ня меў права вылучаць кандыдатаў у дэпутаты. Кандыдатаў у дэпутаты, якіх падтрымліваў БНФ, ставілі ў няроўныя ўмовы з сапернікамі, за якімі стаяла КПБ. Кампартыя і адміністрацыйныя структуры разгарнулі шырокамаштабную кампанію дэзінфармацыі, паклёпу на дэмакратычных кандыдатаў. Былі зарэгістраваны шматлікія парушэньні заканадаўства з боку выбарчых камісій, скіраваных супраць кандыдатаў, якіх падтрымліваў БНФ. Нягледзячы на гэта, з кандыдатаў дэмакратычнага блоку сталі дэпутатамі Вярхоўнага Савета 60 чалавек. Сфарміравалася апазіцыя БНФ з 37 чалавек.

Другі з'езд БНФ "Адраджэньне" адбыўся 23-24 сакавіка 1991 года ў Менску ў будынку клуба тонкасуконнага камбіната. У гэтым з'езь-дзе ад Слонімскай арганізацыі БНФ удзельнічалі 4 дэлегаты. На з'ездзе з прамовай выступіў Мікалай Ракевіч.

9 лістапада 1991 г. Сойм БНФ прыняў Зварот да народа Беларусі, дзе было абвешчана, што калі да канца года Вярхоўны Савет не прыме заканадаўчых актаў, якія забясьпечаць незалежнасьць Беларусі і ажыцьцяўленьне эканамічных рэформ, не адправіць у адстаўку ўрад, БНФ распачне падрыхтоўку да рэферэндуму. Рэферэндум павінен быў вырашыць пытаньні датэрміновага роспуску Вярхоўнага Савета, прыняцьце закону аб выбарах на шматпартыйнай аснове, распрацаванага апазіцыяй БНФ, і новых выбарах паводле гэтага закону.

На Сойме БНФ 11.01. 92 г. была прынята супольная заява кіраўніцтва Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі, Беларускай сялянскай партыі, Беларускай хрысьціянска-дэмакратычнай злучнасьці, Свабоднага прафсаюза аб стварэньні ініцыятыўнай групы для правядзеньня рэферэндума. У той жа дзень адбылася ўстаноўчая канферэнцыя ініцыятыўнай групы рэферэндуму. Старшынёй групы быў абраны сябра Сойму А. Анцулевіч.

13 лютага 1992 года фармулёўка пытаньня і ініцыятыўная група ў складзе 1200 чалавек была зарэгістравана. Ад Слонімскай арганізацыі ў ініцыятыўную групу ўвайшлі 11 чалавек. Пачаўся збор подпісаў за рэферэндум. На Слонімшчыне было сабрана 8 тыс. подпісаў, а ўсяго па рэспубліцы — 446 601 подпіс. Аднак Вярхоўны Савет, насуперак высновам Цэнтральнай камісіі па рэферэндуму, 29 кастрычніка 1992 года прыняў пастанову, якой забараніў правядзеньне рэферэндума.

Слонімская арганізацыя БНФ прымала актыўны ўдзел у зборы подпісаў за З. Пазьняка ў час выбараў прэзідэнта Беларусі, вяла агітацыю за кандыдата на вышэйшую дзяржаўную пасаду ад Фронту.

Вялікая растлумачальная работа сярод насельніцтва вялася сябрамі БНФ у горадзе і раёне у час выбараў у вярхоўны і мясцовыя Саветы ў 1995 годзе. Ад Слонімскай партыйнай арганізацыі БНФ былі выстаўлены кандыдатуры ў Вярхоўны Савет Мікалая Варвашэвіча і Аляксея Якімовіча. Нягледзячы на тое, што яны не занялі першыя месцы, за кандыдатаў БНФ прагаласавалі тысячы слонімцаў. А гэта сьведчыць пра немалы патэнцыял нашай арганізацыі.

З прыходам да ўлады Лукашэнкі, у Беларусі ўсталяваўся фактычна аўтарытарны дыктатарскі рэжым. Усе сродкі масавай інфармацыі цяпер апынуліся ў руках аднаго чалавека — Аляксандра Лукашэнкі. Ідзе перасьлед усіх дэмакратычных незалежніцкіх арганізацый, якія выступаюць за сапраўдны суверэнітэт нашай дзяржавы, за адраджэньне беларускай мовы і культуры.

БНФ разглядае сёньняшні рэжым Лукашэнкі як акупацыйны. Таму зь нядаўняга часу Беларускі Народны Фронт пачаў ператварацца ў шырокі вызвольны рух, які мусіць вызваліць нашу Бацькаўшчыну і наш народ з-пад акупанцкага прыгнёту.

Мы верым у перамогу! Жыве Беларусь!

Сцяпан ІВАНОЎ

# Знойдуцца і такія, але не шмат

На вуліцы ці ў аўтобусе даводзіцца чуць ад пажылых людзей: “Вось і добра робіць Лукашэнка, што душыць прадпрымальнікаў”. Дзьве бабулькі на гарадзкім рынку нават парадаваліся, што цяпер хоць прайсьці стала свабодна тут. Яны ня могуць зразумець, што падаткі, якія плоцяць прадпрымальнікі, ідуць на выплату пенсій, якіх, дарэчы, хапае толькі на малако ды хлеб. Чаму так? Таму што нашае кіраўніцтва ня здольна весьці справу так, каб дзяржава змагла забясьпечыць годнае жыцьцё свайму народу. Яно здольна толькі абдзіраць працоўны люд, як ліпку. Давайце ўспомнім, як улада пазбавіла ільгот пажылых людзей.

Цяпер пры такіх высокіх падатках прадпрымальнікі адмовяцца ад камерцыйнай дзейнасьці, бо ні адзін нармальны чалавек ня будзе займацца той справай, якая не дае яму ніякага прыбытку. Многія камерсанты цяпер пачнуць шукаць іншую работу. Беспрацоўных стане больш. Гэта адчуюць усе, і ў першую чаргу тыя, хто радуецца, што прыціснулі камерсантаў, бо іх жыцьцёвы ўзровень панізіцца.

Адна знаёмая камерсантка скептычна ставілася да пікетаў, мітынгаў, страйкаў у абарону сацыяльных правоў работнікаў. Яна лічыла, што там адстойваюцца чужыя ёй інтарэсы. Цяпер, калі па прэзідэнцкаму ўказу ёй неабходна заплаціць яшчэ дадаткова 22 мільёны рублёў, прыйшло, нарэшце, прасьвятленьне: у грамадзтве няма чужых інтарэсаў. Памыляецца той, хто лічыць, што “яго хата скраю”. Яго хата ўжо не скраю, а на самым краі абрыву...

Калі камерсанты па ўсіх гарадах Беларусі дружна і згуртавана выйшлі на страйк, занерваваліся чыноўнікі, а Лукашэнка пачаў шукаць вінаватых сярод свайго атачэньня. Праўда, цяпер ужо мала хто верыць у шчырасьць слоў прэзідэнта. Ні адзін закон у краіне не пачынае дзейнічаць бяз ягонага подпісу. А словы кіраўніка дзяржавы разьлічаны на тых, хто не абцяжарвае сябе роздумам. Ацэньваць людзей трэба не па словах, а па справе!

**Мікола СЦЯПАНАЎ**

# Зацемкі па практычнай паліталогіі

Беларуская нацыя ў небясьпецы, але ніхто не адмяняў законаў прыроды. Палітычны працэс мае свае заканамернасьці і свае правілы.

1. Першае правіла ў палітыцы: перш чым яднацца трэба радзяліцца. Інакш замест арганізацыі будзе клуб вар'ятаў. Аб'ядноўвацца трэба па ідэі і па ідэялогіі. Наша ідэя ёсьць Беларускай ідэяй. Наша ідэялогія — Адраджэньне. Калі ідэі няма, то няма і прынцыпаў, няма палітычнае маралі, няма і арганізацыі.

2. Другое правіла — маніфестацыя. Гэтае правіла фундаментальнае. Пра свае ідэі, мэты, пр іхняе абгрунтаваньне і дасягненьне трэба гаварыць адкрыта, для ўсіх, галасна і прылюдна. Толькі так можна здабыць прыхільнікаў і дасягнуць высакароднай мэты.

3. Трэцяе правіла — структурызацыя. Арганізацыя павінна мець структуры. Наяўнасьць структураў стварае ўзаемазалежнасьць і сацыяльную аснову да стабільнасьці і паслядоўнасьці палітычных прынцыпаў, паколькі ў кіраўніцтва ўводзіцца фактар адказнасьці. Структуры даюць сілу арганізацыі.

4. Чацьвёртае — трыманьне ініцыятывы. У палітыцы не адпачываюць. Хто трымае ініцыятыву, той і вядзе палітыку, той можа і завалодаць сітуацыяй.

5. Пятае правіла — суб'ект падзеяў. Палітычныя партыя павінна быць суб'ектам дзеяньняў. Лічыцца павінны з ей, а не наадварот. Палітычная праца не цярпіць пасіўнасьці.

6. Шостае правіла: палітыка — гэта час (бывае нават момант). Для датрыманьня гэтага правіла патрэбны талент і інтуіцыя. Ніякія вучоныя рэаліі, адукацыя, розум тут не дапамогуць, калі страціш час, не выкарыстаеш яго ў сваім моманце і «цягнік паедзе».

7. Сёмае правіла — адэкватнасьць. Павінна быць правільная і рэальная ацэнка сітуацыі, прадбачаньне перспектывы.

8. Восьмае правіла — бачыць апанента. Яго трэба бачыць заўсёды, нават патэнцыяльнага.

9. Дзевятае правіла: не сядаць за стол з бандытамі. Для людзей з камфармісцкай сьвядомасьцю і асабістымі амбіцыямі — гэта камень, на якім яны ламаюць сабе ногі, скручваюць шыі і цягнуць у яму цэлыя арганізацыі. Ім хочацца быць у цэнтры ўвагі, удзельнічаць у гульні, якая ім здаецца палітыкай.

10. Дзесятае важнейшае палітычнае правіла — не абагульняцца з чужымі. Гэта контрапазіцыя. Сьпецслужбы ўлады, урадавыя кіруючыя сілы супраць небясьпечных апазіцыйных утварэньняў утвараюць арганізацыю, падобную, але з больш шырокімі, агульнымі мэтамі і задачамі і стараюцца ўцягнуць у яе гэтую небясьпечную апазіцыйную партыю. Што потым — усім зразумела.

11. Адзінаццаты прынцып: не разлучацца са сваімі. Людзі-аднадумцы, палітыкі з адной ідэялогіяй не павінны раз'ядноўвацца і ствараць паралельныя арганізацыі з аднолькавымі задачамі, мэтамі, праграмамі.

12. Дванаццатае правіла — сваіх бараніць. У палітыцы гэтая норма павінна стаць абсалютнай і безаглядней. Для нас беларусаў (з нікчэмнай талерантнасьцю) варта навучыцца ў палітыцы здольнасьці казаць «НЕ». Гэта здольнасьць ёсьць умовай фармаваньня асобы і характару чалавека, псіхалагічнай адпорнасьцю на зло. Людзі, якія здрадзілі Бацькаўшчыне і нацыі, прывялі да ўлады Лукашэнку, адмянілі сьцяг і Пагоню, толькі ў атрутным, бесхрыбетным асяродзьдзі, гэткія людзі могуць плаваць на паверхні ў камуфляжы герояў і «сумленьня нацыі». Здрада адбываецца адзін раз. Яны жывуць не ў Беларусі, а ў асяродзьдзі, што не ўмее казаць «НЕ».

**Зянон ПАЗЬНЯК, старшыня БНФ «Адраджэньне»**

**ЗМАГАР**

Выданьне Слонімскай Рады БНФ.
Выходзіць з 1998 г.
Рэдактар Паўлюк ДУБІНА
Наклад 199 паасобнікаў.

Адказны за нумар Сяргей КЛІМ